ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 15 (1509) ГОД XXX БЕЛАСТОК 14 КРАСАВІКА 1985 г. ЦАНА 8 зл.

## Вясёлых свят!



## ПАГРОЗА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ І ЗДАРОЎЯ

Гэта алкагалізм і наркаманія. Дзве балючыя з'явы ў грамадскім жыцці нашай краіны. Людзі п'юць усё больш і больш — наперакор усялякім разумовым і праўным абмежаванням, нягледзячы на высокую цану алкагольных вырабаў і яшчэ вышэйшую цану наркаманскай атруты.

Статыстычны даведнік для Беластоцкага ваяводства за 1984 год падае, што ў 1982 г. на спіртныя вырабы жыхары Беласточчыны аддалі 6 мільярдаў 522 мільёны 700 тысяч злотых. У наступным годзе прапусцілі мы цераз горла ўжо амаль на 2 мільярды 600 мільёнаў злотых больш. Гэты нерадасны прагрэс ўтрымоўваецца і надалей. У мінулым годзе прыпала на 0,2 літра больш чыстага спіртнога на галаву кожнага з нас, чымсьці год раней. Выпілі мы па 4 літры ўмоўнага стопрацэнтнага алкаголю! Значыць, роўна 20 бутэлек звычайнай манапалькі на кожнага!

Дальбог, я столькі не выпіў! Аднак, статыстычная цётка заўсёды такая добрая, што дзеліць усім роўна. У выпадку алкаголю не памінае нават і тых грамадзян, якія яшчэ п'юць выключна матчына малако. Але і сярод дарослых, я ўпэўнены, ёсць прыгнятальная большасць такіх, якія далёка адстаюць ад гэтай „сярэдняй статыстычнай". А калі так, дык ёсць таксама і такія нашыя суродзічы, якія і за нас стараюцца, каб паспяхова расла гэтая „статыстычная сярэдняя". Дык колькі для іх не замала: пляшка ў тыдзень, а мо і кожны дзень па бутэльцы?!

А пазней паяўляюцца ў друку сенсацыйныя паведамленні, што, маўляў, падпітая маладаўня на вул. Гаёвай зацюкала ў нічым не павіннага чалавека. 90 працэнтаў злачынцаў у момант злачынных вылазак знаходзіцца пад уплывам алкаголю.

Проста хвароба, грамадская хвароба.

Зусім новай адмоўнай з'явай ў галіне грамадскай паталогіі з'яўляецца ў нас наркаманія. Энцыклапедыя падае, што наркаманія гэта неадольная хваравлівая цяга да сістэматычнага ўжывання наркатычных сродкаў, такіх як: морфій, гераіна, кафеіна, гашыш, марыхуана і іншыя алкалоідныя рэчывы, здольныя ўзбуджаць або прыгнятаць цэнтральную нервовую сістэму.

Наркаманія, як і каларадскі жук, прый-

(Працяг на стар. 2)

ЯКУБ КОЛАС

## Вялікдзень

А новы дзень, даўно жаданы,
Ўжо сыпле багру на курганы,
І стрэлы косы-залатыя
На ўзгоркі падаюць крутыя.
А хмаркі ў фарбах златалітых,
Ў шаўках, агністых аксамітах,
То паасобку, то гурткамі,
То залатымі ланцужкамі,
Як бы спыніўшысь нерухліва,
Усмешкі кідаюць шчасліва, —
І ім хацелася, відаць,
Святы Вялікаднік вітаць.
— Ну, едуць, едуць! — Алесь з хаты
Бяжыць да дзядзькі і да таты,
І дзеці кінуліся к парогу.
— Ну, вось і дома, дзякуй Богу!
Прышлі у хату, ўсіх цалуюць,
З святым Вялікаднем віншуюць;
Памыліся, борздзенька садзяцца,
Бо час даўно ім разгаўляцца.
Абрусам белым стол накрыты;
Ўсё мае выгляд самавіты;
Мужчыны добры і прыветны,
Ніякай цені незаметна.
На бэльку кінуў бацька вочы,
Бярэ кантычку і гартае,
„Вэсолы нам дзісь дзень" шукае.
...К канцу падходзіць „алялюя",
Ў камору маці тут тралюе,
Нясе прынадную бутэльку.
Кантычка зноў ідзе на бэльку.
Відэльцы дружна разбіраюць
І гуртам яйкі ачышчаюць,
І па кусочку іх бяруць,
Крыху падсольваюць, ядуць.
Вось бацька чарку налівае
І вочы ўгору падымае.
— Дай, Божа, за год дачакаць
Здаровым, вясёлым, жывым
І новы Вялікдзень таксама спаткаць
У добрым здаровейку ўсім,
Каб гора і смутку не зналі.
— Дай Божа! — разам адказалі.
І пайшла чарка з рук у рукі,
Пілі ўсе гладка, без прынукі;
Малым папрабаваць далі,
Каб весялейшыя былі.
А на стале тым — рай ды годзе,
Што рэдка трапіцца ў народзе,
Ляжала шынка, як кадушка,
Румяна-белая пампушка,
Чырвона зверху, сакаўная,
Як бы агонь у ёй палае,
А ніз бялюткі, паркалёвы;
Кілбасы-скруткі, як падковы,
Між сцёган, сала і грудзінак
Красуе ўсмажаны падсвінак,
Чысцюткі, свежы і румяны,
Як бы паніч той падзіманы.
Муштарда, хрэн — адно дзяржыся,
У рот паложыш — сперажыся!
А пірагі, як сонца, ззялі,
І ў роце бабкі раставалі.
Са смакам елі і багата —
На тое ж даў Бог людзям свята.

*(З паэмы „Новая зямля")*

**НА МЯЖЫ**

# АБ НЯВЫКАРЫСТАНЫХ ШАНЦАХ (IV)

Увявім сабе такую карціну: на ўсходняй Беласточчыне няма ніводнай царквы, ва ўсіх беларускіх вёсках людзі гавораць выключна па-польску, ліквідавана беларуская мова ў школах, усе вёскі з характэрнымі беларускімі назвамі атрымалі тыпова польскія назвы, ліквідавана „Ніва“ і Беларускае грамадска-культурнае таварыства і гэтак далей, і таму падобна. Не трэба быць вялікім фантастам, каб уявіць, наколькі збяднела б не толькі Беласточчына, але і ўся краіна. Чаму Польшча залічваецца да краін прыгожых? Таму, што характарызуе яе этнічна-культурная і рэлігійная разнароднасць. Колькі ж рознага і адменнага ў вопратцы, у абрадах, звычаях, традыцыях, танцах, а нават і ў мове ў кракавякаў і кашубаў, гураляў і мазаўшан, падлясякаў і куяўлян. Аднак, наколькі мне вядома, дагэтуль не знайшлося ў польскай нацыі ніводнага шаленца, які б сказаў, што абрады, звычаі, традыцыі, танцы, песні, гаворка аднаго рэгіёна Польшчы ў параўнанні з усімі іншымі раёнамі найлепшыя і ў сувязі з гэтым культурная і моўная спецыфіка гэтага рэгіёна будзе накінута ўсім іншым, што давядзе да поўнай уніфікацыі і аднароднасці.

Думаю, што такога глупства ў Польшчы ніхто не сказаў ў мінулым і не скажа ў будучым. Наадварот, у навуковых працах, у публікацыях, у радыё і тэлебачанні, на з'ездах і сімпозіумах безупынна гаворыцца і паўтараецца, што не толькі харàство і багацце, але і адзінства польскай культуры праяўляецца ў яе разнароднасці. І таму захаваць гэтае харàство і багацце можна толькі шляхам падтрымкі, інспірацыі і развіцця ўсіх праяваў рэгіянальнай адменнасці і спецыфікі.

Прыгаворам гістарычных лёсаў усходняя Беласточчына апынулася ў рамках Народнай Польшчы.

Ніхто не можа аспрэчваць, што на працягу апошніх сарака гадоў у сэнсе эканомікі, культуры, асветы, выгод жыцця, дасягнула яна болей чым на працягу папярэдніх доўгіх, доўгіх стагоддзяў. У даваеннай Польшчы амаль нельга было знайсці беларускай вёскі, з якой выводзіўся б ліцэіст, а тым болей студэнт, сёння ж цяжка знайсці беларускую вёску, з якой беларускія хлопцы і дзяўчаты не былі б вучнямі сярэдніх школ ці студэнтамі. У гэтым якраз і праяўляецца аграмадны прагрэс і тое, што прынята ў нас называць грамадскім і культурным авансам.

Аднак у гэтым прыгожым ёсць і брыдкае. Пытаюся, чаму гэта аграмадная маса беларусаў, якая хлынула ў розната тыпу школы, якая асвоіла разнародныя прафесіі ў гэтых жа школах ці ўстановах, чытаючы падручнікі, навуковыя артыкулы, кнігі, газеты і часопісы, вельмі часта сутыкаецца з сотнямі і тысячамі публікацый і інфармацый, прысвечаных культурнай, харэаграфічнай, абраднай, вопраткавай і моўнай спецыфіцы паасобных рэгіёнаў Польшчы, а не атрымоўвае такой інфармацыі аб этнічна-нацыянальнай, моўнай і абрадава-звычаёвай спецыфіцы ўсходняй Беласточчыны? Зразумела, што ў такой сітуацыі ў выхадца з Беласточчыны — беларуса не толькі не будзе развівацца пачуццё гордасці з факту прыналежнасці да беларускай меншасці, а наадварот, будзе разрастацца комплекс непаўнацэннасці. І таму тады, калі куявяк, кракавяк, мазаўшанін, гураль будзе з гордасцю дэклараваць сваю вернасць і прывязанасць да свайго рэгіёна, беларус з усходняй Бела-

(Працяг на стар. 11)

# ПАГРОЗА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ І ЗДАРОЎЯ

(Працяг са стар. 1)

шла да нас з багатай Амерыкі. Першапачаткова закаранілася яна ў „народжаных у нядзелю“, якія мелі магчымасць заімпанаваць сябрам сваім „шпанам“.

У 1965 годзе ў Гданьску нехта апрацаваў рэцэпт на „польскую гераіну“ — наркотык са звычайнага маку, або макавай саломы. Не трэба было ўжо карыстацца паслугамі гандляроў, бываўшых у заходніх краінах, дзе доступ да наркотыкаў быў заўсёды даволі лёгкі. Там дзейнічалі і надалей дзейнічаюць цэлыя мафійныя арганізацыі, якія на гандлі „белай смерцю“ накапляюць мільярдныя багацці.

Нездарма ж мода ўжывання наркотыкаў пачала распаўсюджвацца ў нашай краіне ў гадах „шырокага адкрыцця на захад“.

Вядома, чалавек найхутчэй засвойвае ўсё тое, што брыдкае і недазволенае. Так было і з наркаманіяй. Яе закараненню спадарожнічала быццам бы „высакародная тэорыя“, каб уцячы ад нахабнасці і недарэчлівасці складанага і незразумелага чалавечага жыцця, каб апынуцца ў цудоўным свеце ілюзіі, дзе няма аніякіх абавязкаў, патрэб, наказаў і забаронаў, а свет цэлы гэтакі каляровы!

І так шырылася гэтая ілюзія пад выглядам „макавага кампоту“, які ўсё часцей станавіўся хадлівым, добра платным таварам.

Цяпер у Польшчы налічваецца ад 30 да 40 тысяч людзей, узалежненых ад наркотыкаў. Узалежненых, значыць, такіх, якія ўжо не могуць жыць без гэтай атруты. Бо наркотык, як бяздонная дрыгва. Калі чалавек пападзе ў яе, дык сам ужо не зможа выратавацца. Хопіць раз ці два, хаця б для спробы, пераступіць парог гэтай „ілюзіі“, а ўжо ратунку няма і чалавек пападае ў страшэнную хваробу, якая называецца наркаманіяй. Пачынаецца невыносныя боль, пакутлівая прага, каб яшчэ і яшчэ, а канчаецца ўсё гэта жудаснай, страшэннай „белай“ смерцю ў невыносных муках...

400 да 500 тысяч, найчасцей яшчэ маладых людзей, на парозе свайго паўнавартаснага жыцця, сутыкнулася ўжо ў нас хаця б адзін раз з наркотыкамі.

Шэсце алкагалізму і наркаманіі па нашай краіне прадаўжаецца. Пагроза для жыцця і здароўя з гэтага боку найбольш сур'ёзна праяўляецца ў самых буйных гарадскіх прамысловых і культурных цэнтрах, перш за ўсё ў сталіцы, у Катавіцкай акрузе і на Гданьскім узбярэжжы. Беласток пакуль што астаецца ў другой зоне наркатычнага адурманення.

Дзяржава ўсур'ёз ставіцца да барацьбы з праявамі гэтай грамадскай паталогіі. Маем суровыя сеймавыя пастановы аб алкагалізме і наркаманіі. Пастанова аб барацьбе з наркаманіяй уводзіць, для прыкладу, шмат якія абмежаванні ў некантраляваным вырошчванні маку, каб абмежаваць доступ да сыравіны, з якой дамарослыя спецыялісты рыхтуюць „польскую гераіну“. На ўласныя патрэбы сёння можна вырошчваць толькі загончык у 20 квадратных метраў маку, пры гэтым абавязкова трэба паведаміць у мясцовую дзяржаўную адміністрацыю, бо інакш пагражаюць суровыя пакаранні.

Найлепшыя, аднак, пастановы заўсёды заставаліся толькі на паперы, калі не было ў грамадстве спрыяльнага грунту для іх ажыццяўлення. І таму асабліва высока трэба ўганараваць пачын дзеячоў Патрыятычнага руху нацыянальнага адраджэння на Беласточчыне, якія рашылі ўзмоцніць фронт барацьбы з гэтымі адмоўнымі грамадскімі праявамі аўтарытэтам сваёй арганізацыі. 25 лютага 1985 года адбылося ў Беластоку пленарнае пасяджэнне Ваяводскай рады ПРОН, у якім прыняў удзел старшыня Краёвай рады ПРОН Ян Дабрачынскі. Пасяджэнне амаль поўнасцю было прысвечана абмеркаванню адмоўных праяваў алкагалізму і наркаманіі, а таксама пошукам спосабаў выкаранення гэтай пагрозы для жыцця і здароўя. Пісалі аб гэтым штодзённыя газеты. Мне тады засталося яшчэ адзначыць, што дзеячы Патрыятычнага руху нацыянальнага адраджэння з вялікай увагай і поўным адабрэннем выслухалі погляды ў гэтых справах праваслаўнай царквы, якія ад імя епіскапа Саввы прадставіў айцец Канстанцін Бандарук.

— Алкагалізм і наркаманія, — гаварыў ён, — гэта хвароба душы, а ўсялякае зло мае сваю крыніцу ў чалавека, які адышоў ад маральных прынцыпаў хрысціянскай веры. Віно — дар Божы, але п'янства — чартоўскае, сатанічнае тварэнне. І таму праваслаўная царква адчувае салідарную адказнасць за маральны стан нашай грамадскасці і таму яна ў сваёй душпастырскай дзейнасці сярод моладзі і дарослых так многа ўвагі і часу прысвячае прывіванню высокамаральных паводзін і прынцыпаў цвярозасці.

Актыўны ўдзел намесніка старшыні Прэзідыума ГП БГКТ, доктара Яна Зенюка, у гэтым пасяджэнні (прыгадаем, што ён жа з'яўляецца там таксама намеснікам старшыні ВР ПРОН) сведчыць аб тым, што і Беларускае таварыства са сваімі скромнымі магчымасцямі поўнасцю ўключаецца ў высакародны пачын пронаўскай арганізацыі на Беласточчыне, каб супольна загарадзіць дарогу гэтай пагрозе для жыцця і здароўя.

**Віктар Рудчык**

Фота аўтара



Ад імя епіскапа Саввы выступіў айцец Канстанцін Бандарук. Побач яго ксёндз Аляксандр Пестаровіч.

# МОЦНЫ ЧАЛАВЕК ГРАМАДЫ



**Сымон Рак-Міхайлоўскі, 1924.**

Дакладна сто гадоў назад у Максімаўцы на Маладзечаншчыне нарадзіўся Сымон Рак-Міхайлоўскі. Мусіў гэта быць хлопчык з незвычайнымі здольнасцямі, калі ў пятнаццацігадовым узросце паступіў ён у настаўніцкую семінарыю, якую ўдала і закончыў. Няшмат што больш мы ведаем цяпер пра яго дзяцінства і маладосць. У выпадку такіх выдатных постацей робіцца крыўдна ад таго, што мы, беларусы, не прыдаем значэння жыццяпісу, гісторыі наогул. У асобе Рак-Міхайлоўскага маем дачыненне з унікальнай з'явай, без якой непасрэдна вядомая нам Беларуская сялянска-работніцкая грамада не вырасла б у знакамітую арганізацыю (Браніслаў Тарашкевіч быў яе аўтарытэтам, але моцным чалавекам Грамады быў менавіта ён, Рак, як папулярна называлі яго сябры).

Можна згадвацца, што ў доме Міхайлоўскіх думалі не толькі пра „хлеб і да хлеба" і што бачылі там свет значна далей, чымсьці азімае поле або прылесную пашу. Калі маладзюсенькі настаўнік Сымон задумаў падацца ў сталіцу Расійскай імперыі, у Санкт-Пецярбург, па вышэйшыя навукі, дык не мог таго ўчыніць — прыляпілі яму паліцэйскі ярлык бунтаўніка (вёў нейкую народніцкую агітацыю ў вёсках рэвалюцыйнага 1905 года). Аднак, на шчасце, унутраны шпіянаж тадышні бачыцца нам з цяперашніх перспектыў як досыць-такі сярмяжны, калі няўрымсліваму падпальшчыку гмаху царскае ўлады пашанцавала паступіць у перыферыйны, праўда, педагагічны інстытут у Феадосіі (Крым).

Ці ўжо прымаў ён удзел у беларускім адраджэнскім руху? Нічога пэўнага тут не можа сказаць нават Аляксандра Бергман, заядлы даследчык заходнебеларускага фрагмента палітычнай гісторыі Беларусі. Відаць, нешта адбывалася з ім як беларусам... Першага свайго сына, народжанага ў 1912 годзе, ахрысціў жа Рагвалодам, імем князя-гаспадара Зямлі Полацкай, са слаўным мінулым якой гісторыкі звязваюць пачаткі беларускай дзяржаўнасці (дачку ж назваў Рагнедай, імем слыннай беларускай князіні-гаспадарыні з таго ж уладарнага дома ў Полацку!). Жонка яго была грэцкага паходжання, надзвычай культурная жанчына і з пачуццём традыцыі, што не магло не мець уплыву на агульную атмасферу ў сям'і.

Сымон Рак-Міхайлоўскі як беларускі дзеяч вядомы нам ад часу расійскай рэвалюцыі 1917 года, у ролі перш агітатара ў X і XII арміях на румынскім фронце. Стаўкай было ўтварэнне беларускай узброенай сілы.

Увесь ён сканцэнтраваўся вакол захадаў аб канстытуацыі Беларускай Цэнтральнай вайсковай рады ў Мінску, якую сам і ўзначаліў, а таксама стаў адным з вядучых арганізатараў Першага Усебеларускага Кангрэса. Узімку 1918 г. ён, разам з іншымі, пракраўся праз савецка-нямецкі фронт і пешшу дабрыў да Брэста, каб пратэставаць там супроць падзелу беларускіх земляў у выніку мірнай канферэнцыі, якая адбывалася ў гэтым горадзе. Азіраўся на тагачасную Польшчу, у якой наіўна бачыў прыяцеля беларускай незалежнасці (Варшава паводзіла сябе кур'ёзна, давала згоду на



**Максімаўка, 1980.**

арганізоўванне нечага накшталт штаба, але без права на фарміраванне палкоў ды дывізіяў; гэтак жа дазваляла адкрыць курсы для настаўнікаў, але не прыхілілася да справы наладжання сеткі школаў з беларускай мовай навучання).

Двухгоддзе 1918/20 даволі няяснае ў жыцці і дзейнасці Рак-Міхайлоўскага, ды і не высветлена яно да канца ў самой жа беларускай гістарычнай навуцы.

Беларусь прабілася ўсё-такі на паверхню палітычнага свету, пачала існаванне ў выглядзе асобнае рэспублікі ў рамках савецкай дзяржавы. Гэта вырашыла арыентацыю кіраўнічых сілаў беларускага руху ва ўмовах Заходняй Беларусі, сярод якіх дамінавала паланафільства, апазіцыйнасць у дачыненнях з Расіяй (нават шмат-хто з лідэраў эміграцыйнага ўрада даходзіў да паразумеласці з Мінскам, як Цвікевіч, Ластоўскі і шэраг іншых). Аўтары гісторыязнаўчых прац звяртаюць увагу на падобны працэс і ў свядомасці Сымона Рак-Міхайлоўскага, які зразумеў, што заходнебеларусаў чакае паланізацыя і што ўсялякі іх супраціў будзе мець сэнс і моц, калі знойдзе ён падтрымку ды апору ў Беларускай ССР і адсюль на міжнародным форуме. — Разумны вучыцца на памылках таксама і чужых, а дурня і свае не навучаць, — любіў прымаўляць Рак.

Стаў ён паслом у Сейм, а неўзабаве адным з вядучых заснавальнікаў Грамады, нашага гонару і славы. У палітыцы лічыцца ў першую чаргу сіла, як трапна заўважаў ён; пра яго потым скажуць, што аказаўся самым дынамічным і прабойным арганізатарам. Нічога не рабіў выпадкова, усё меў прадуманае, строга калькуляванае, з улікам рызыкі няўдачы. Гэта ён напісаў статут арганізацыі, фактычна масавай партыі. Праз яго рукі праходзілі найтайныя справы, сувязі, кантакты ў краіне і за мяжою. Перш за ўсё, буйныя грошы, без якіх нішто немагчымае ў грамадскіх пачынах, тым болей з велізарным размахам. Фінансавае заплечча тае Грамады гэта віленскі Беларускі банк, які пераняў пад свой кантроль якраз Рак (асабліва дзеля сакрэтнасці датацыяў, у параўнанні з якімі партыйныя складчыны грамадоўцаў ды рэшта даходаў складалі смешна нізкі працэнт!). Наладзіў Цэнтральны сакратарыят; маланкава рэагаваў на ўсялякія абвалы ў дзейнасці арганізацыі, утрымліваючы ўсю яе вялізную машынерыю ў пастаяннай актыўнасці. Быў дэміургам практычнасці. Браніслаў Тарашкевіч вельмі шанаваў Сымона Рак-Міхайлоўскага. Несумненна, разам яны апрацоўвалі план, названы пасля „другою лініяй акопаў" (Рак як вайсковец, былы высокі афіцэр любіў ваенную тэрміналогію, дысцыпліну, пунктуальнасць, справядлівасць). Кожнаму, хто хоць трохі ўмеў палітычна думаць, было ясна, што ўлады знішчажаць Грамаду, не дапусцяць да яе ўмацавання. Таму на гэтую другую лінію адступлення прадугледжана Таварыства беларускай школы, арганізацыя дагэтуль мала жывая (Рак парупіўся апынуцца ў яе кіраўніцкім грэміуме, разам са сваімі людзьмі). ТБШ, сапраўды, рушылася і ў значнай меры выканала спадзяваную работу ў масах.

Здзіўляе ўсебаковасць, універсальнасць нашых пачынальнікаў. Сымон Рак-Міхайлоўскі выявіў сябе пранікнёным палітыкам, велічным арганізатарам, публіцыстам, аўтарам падручнікаў; маючы музычны талент удадатак, напісаў песню „Зорка Венера" на словы Максіма Багдановіча, знаную вельмі цяпер. Можна дагледзецца ў гэтым нейкага закону прыроды чалавечай душы: калі нараджаецца нацыя, народ, дык, як правіла, з'яўляюцца ў ім адзінкі геніяльна здольныя і з энергіяй, дзеля якой у нармальны час трэба мноства інтэлігентных людзей; яны адны праробяць за ўсе тыя пакаленні, што „ад веку мы спалі." Рак-Міхайлоўскі і Тарашкевіч надзвычайна дапаўнялі адзін другога, і лёс іх завяршыўся аднолькава, і памяць пра іх у нас такая ж глыбокасардэчная.

**Сакрат Яновіч**

# ХРОНІКА

### Аддзел БГКТ у Нарве

1 лютага сабраліся ў Нарве прадстаўнікі ўсіх гурткоў БГКТ з гэтай гміны на сваю першую канферэнцыю, якая выбрала праўленне аддзела. З абшырнай інфармацыяй аб ходзе рэалізацыі пастаноў X з'езда БГКТ выступіў намеснік старшыні ГП Кастусь Майсеня. Падчас дыскусіі начальнік мясцовай гміны Іван Тапалянскі запэўніў усебаковую падтрымку і дапамогу праўленню аддзела і заахвочваў усіх членаў БГКТ праяўляць актыўнасць у выконванні статутовых задач БГКТ.

Іван Ваўранюк — старшыня гміннай рады ПРОН — звярнуў увагу на недапушчальнасць спольшчвання беларускіх назваў паасобных мясцовасцей і на слабое супрацоўніцтва БГКТ з БССР.

Іван Каўнер гаварыў аб тым, як цяжка разгортваць мастацкую самадзейнасць, калі няма спецыялістаў для вядзення хору, музыкі, танцаў.

Галена Тапалянская прысвяціла сваё выступленне двум справам: неабходнасці павелічэння ліку чытачоў „Нівы" і выкарыстанню гурткамі БГКТ вясковых клубаў для культурна-асветнай дзейнасці.

Удзельнікі канферэнцыі выбралі 15-асабовае праўленне аддзела і 3-асабовую рэвізійную камісію. У склад прэзідыума праўлення аддзела выбраны: Юрка Хмялеўскі — старшыня. Галена Тапалянская — намеснік старшыні, Валянціна Міхальчук — сакратар, Іван Ваўранюк — скарбнік. Рэвізійную камісію ўзначаліў Пётр Ціханюк. (Паводле інфармацыі К. Майсені)

*

■ 7 сакавіка Галоўная рэвізійная камісія пад старшынствам Уладзіміра Юзвюка правяла кантроль статутнай і фінансавай дзейнасці за мінулы год.

■ 11 сакавіка пад кіраўніцтвам Валянціны Ласкевіч адбыўся супольны сход праўленняў чатырох гурткоў БГКТ у Беластоку (агульнагарадскога, пенсіянераў, маладзёжнага і пры рэдакцыі „Ніва"), які абмеркаваў справы, звязаныя з стварэннем праўлення гарадскога аддзела.

■ 12 сакавіка адбылося пленарнае пасяджэнне праўлення аддзела ў Нарве, якое прыняло план працы да канца 1985 года. План прадбачвае актывізацыю дзейнасці гурткоў БГКТ у Нараўскай гміне, дапамогу ў іх працы з боку членаў праўлення аддзела, а таксама як мага хутчэйшае правядзенне сходаў у гуртках на тэму пастаноў X з'езда БГКТ.

■ 14 сакавіка, згодна з планам працы гістарычнай секцыі, у памяшканні ГП выступіў Антон Мірановіч з дакладам на тэму: „Беларуская нацыянальная меншасць у другой Рэчыпаспалітай".

■ 16 сакавіка ў памяшканні ГП у Беластоку адбыўся літаратурны семінар, прысвечаны вершам Яўгеніі Мартынюк з Бельска.

■ 19 сакавіка праўленне гарадскога гуртка БГКТ у Беластоку арганізавала сустрэчу са студэнтамі.

**Міхась Хмялеўскі**

## Адгалоскі

### ШТО МОГУЦЬ БЕЛАРУСКІЯ ФІЛОЛАГІ

Не ведаю, хто аўтар артыкула „Прапануем з'езд беларускіх філолагаў" (В.Л., „Ніва" № 9 ад 3 III 85). Здаецца мне аднак, што аўтар не арыентуецца, колькі каштуе начлег у беластоцкай ці варшаўскай гасцініцы! І ўвогуле, ці можаце сабе пазволіць на такія імпрэзы? Асабіста я не супраць. Наадварот, вітаю ініцыятыву, хоць бы па той прычыне, што нехта ўсё ж думае аб тым, што дзеецца з выпускнікамі беларускай філалогіі.

Дарэчы, ужо калісь гэтую праблему ў лісце ў рэдакцыю я сама закранула. Ніхто аднак мне не адказаў.

Дык вось, адносна з'езда. Мне здаецца, што думаць аб гэтым трэба. Таксама трэба старацца выпрацаваць умовы, каб выпускнікі беларускай філалогіі прапавалі згодна са сваімі ведамі і падрыхтоўкай.

Але ўсё гэта вымагае хоць некалькіх энтузіястаў, якія б пачалі і паказалі, што ўсё можна зрабіць.

**А. Бергман**

### „ПАМЯЦІ ДЗЯДЗЬКІ ПІЛІПА"

Не зразумець, каму курыцца фіміям („Ніва" № 7(1501) — ці добрай памяці гэтага добрага чалавека, ці самому аўтару. На цэлую старонку так мала ўспамінаецца пра с.п. дзядзьку Піліпа. Праўда, аўтар у пачатку сказаў, што, пішучы пра нябожчыка, апісвае пачатак свайго „ўласнага свядомага існавання".

А напісана добра.

**Дзед Кастусь**

### БОЛЬШ ТАКІХ КНІГ

Нядаўна я прачытала кніжку „Я з вогненнай вёскі", напісаную Алесем Адамовічам, Янкам Брылем і Уладзімірам Калеснікам.

Тэмай яе з'яўляецца цяжкое жыццё жыхароў беларускіх вёсак у час вялікай вайны. Аўтары паказваюць нам перажыванні людзей у час вайны, даюць успаміны перажыўшых той жахлівы час.

У наш час такіх кніг павінна друкавацца больш і не толькі на беларускай мове. Такія кніжкі маюць вялікую вартасць. Яны не толькі паказваюць гісторыю, але даюць людзям магчымасць задумацца над такімі важнымі пытаннямі, як мір, вайна, чалавек.

Такія кніжкі патрэбны не толькі нам — маладым. Таксама патрэбны яны і старэйшым. Усім патрэбны.

Калі я чытала гэтую кніжку, мне слёзы самі ўсплывалі на вочы. Проста немагчыма паверыць, што такое маглі рабіць людзі.

Прачытаўшы кнігу, я напісала верш, які пасылаю.

#### ЗАКЛІК

Прайшлі многа,
Перажылі больш,
Яны, нашы родныя,
Яны, вогненныя.

І вы, старэйшыя,
І мы, малодшыя,
Не забывайма іх —
Вогненных.

Хай яны,
Хай іх боль,
Іх жыццё
Заўсёды будуць
Нам блізкія,
Нам вядомыя.

**Люся Анхім**



## Новыя вершы

### ГЕВАНТ

Ля Геванта жыву я,
Ля Геванта зімую,
І ён мяне заўсёды так палоніць.
Здаецца, гэта быццам
Спіць аграмадны рыцар
На неба затуманенага фоне.
Штодзень брыду няспынна
Я Белага далінай,
Спыняю крок ля Геванта падножжа.
Няма ўваходу шанцаў,
Зіма лядовы панцыр
Накінула на рыцара-вяльможу.
Аднак ізноў вясною,
На рыцара без зброі
Накінуцца нахабныя турысты.
Патопчуць беспардонна,
І ён, безабаронны,
Пад крыжам шэптам скажа:
Jezu Chryste.

**Віктар Швед**

Закапанэ, 26 II 1985



Калодзеж у Ячне. Фота Юркі Трачука.

## ВЕСТКІ З ЧЫЖОЎ

### ЧЫЖОЎСКІ АДДЗЕЛ БГКТ

Паспяхова праходзіць на Гайнаўшчыне рэалізацыя пастаноў X з'езда БГКТ аб стварэнні аддзелаў Беларускага таварыства. Гайнаўскія актывісты БГКТ часта выязджаюць у вёскі на сустрэчы ў школах і клубах.

5 сакавіка ў прыгожым клубе селяніна ў Чыжах адбыўся чарговы сход прадстаўнікоў гуртвкоў БГКТ з Чыжоўскай гміны. Прысутнічалі мясцовыя ўлады: Рыгор Мацкевіч — сакратар гміны, Галіна Бабрыцкая — інспектар асветы, Галіна Мартынюк — інспектар культуры, Юрка Якімюк — кіраўнік ГОКа.

Спачатку выступіў намеснік старшыні ГП БГКТ Кастусь Майсеня. Ён дакладна пазнаёміў прысутных з пастановамі X з'езда БГКТ, з ходам прац над арганізацыяй Беларускага музея. У пленнай дыскусіі прысутныя паставілі справу стварэння ў Чыжах аддзела БГКТ, што і было на сходзе выканана. У праўленне выбрана 16 асоб. Старшынёю аддзела БГКТ у Чыжах стала Галіна Мартынюк — член ГП БГКТ.

На заканчэнне Аляксандр Іванюк, член Прэзідыума ГП БГКТ, паінфармаваў, што ён сам прымае пад апеку гэты аддзел, што і было запісана ў пратаколе сходу.

### У ШКОЛЕ

5 сакавіка ў 8-класнай школе ў Чыжах адбылася сустрэча вучняў з Аляксандрам Іванюком — дырэктарам Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. Расказаў ён аб працы X з'езда БГКТ, аб неабходнасці захавання матэрыяльнай культуры беларусаў, роднага слова, аб вывучэнні нашай гісторыі. Многа расказаў і аб Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы, які шчыра запрашае і вітае ў сваіх сценах васьмікласнікаў з усіх школ. Малады чалавек знойдзе ў беларускім ліцэі свой другі дом і другую маці.

### СЕСІЯ ГРН

У канцы лютага ў Чыжоўскай гміне адбылася сесія гміннай рады нарадовай, на якой, згодна з рашэннем радных, гміна прыступіла да конкурсу „Майстар гаспадарнасці". Былі абмеркаваны таксама справы гміннага фонду развіцця культуры на 1985 г. Трое шматгадовых працаўнікоў гміны было ўзнагароджана Залатымі Крыжамі Заслугі. Гэта: Рыгор Мацкевіч, Ніна Шышкевіч, Ніна Бабрыцкая.

### ЧЫЖОЎСКІ ГОК

Ужо два гады Юрка Якімюк кіруе ГОКам у Чыжах. Юрка — малады энтузіяст, актывіст Беларускага таварыства. Сам ён расказвае пра пачатак сваёй працы, які, вядома, не быў лёгкі. Маладому кіраўніку прыйшоў у час з дапамогай дырэктар Гайнаўскага дома культуры Мікалай Бушко.

Сёння Юрка Якімюк супрацоўнічае з Дамамі культуры „Гурнік" і „Ляснік", з клубам БГКТ, школамі, з жаночым калектывам у Курашаве.

Юрка любіць людзей і верыць у іх. Цешыцца, што мае такіх актыўных памочнікаў, як Міхась Тарасюк з Чыжоў, Вася Іванюк з Койлаў, Валя Сачко з Мора, Ніна Грыгарук з Курашава, Толік Сегень з Каменя і шмат іншых.

**В. Б.**

### ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

I

— Выслала я сваю наймалодшую ў горад вучыцца, у ліцэй. Старэйшыя ўжо пажаніліся, унучачкі ў мяне ўжо ёсць. Разляцеліся дзеткі, свае гнёзды звілі. І гэтая ўжо адляцела. Прыедзе, загляне, есці возьме, летам трохі ў полі п获 памажа. Дзяўчына спакойная, у кніжках сядзіць, кажа, што нікуды не выходзіць, вучыцца. Дахаты таксама рэдка заглядае, зрэшты, чаго сюды перціся. Старыя мы ўжо, аб чым з намі талкаваць... Да Гандзі прыязджае сын яе часцей, ён студэнт, сяброў прывозіць. Кажу сваёй: прыедзь, прывязі сяброўку ці хлопца запрасі, калегаў, але яна неяк не прывозіць. Можа нас сароміцца, старыя мы, па-польску смех-смехам гаворым, мэбля старая, не бліщчыць, і дываноў няма, ано палавікі са шматаў тканыя... Няма чаго паказаць... Не, яна адзета як трэба, не пазнаць, што з вёскі, стараемся. Не, не, яна добрая дзяўчына, так. Нічога ў нас не просіць, каб купіць ёй ці даць, але каму мы гэта ўсё пакінем, як не ёй? Няхай жыве, карыстаецца са сваёй маладосці. Мы вайну, няшчасці вялікія перанеслі, няхай нашы дзеці жыццё лягчэйшае маюць, не наракаюць. Няхай вучацца, стольні іхняе і работы. Няхай пажывуць...

### НЯХАЙ НАЖЫВУЦЦА

II

— Мае бацькі? Ну, такія, як усе. Прыеду дахаты, пагаворым. Аб усім няма як гаварыць. Возьмеш раскажаш, паедзеш, а маці не спіцца, начамі думае, перажывае. Бацька гатоў набіць ці забраць цябе з горада... У інтэрнаце нас добра сцерагуць. Сяброў многа, ніколі мы не галодныя. Калі хочаш, то можаш добра вучыцца. Забавіцца таксама, калі рада інтэрната працуе добра — патанцаваць, пайсці ў кіно, на канцэрт. Але гэта не тое, што на кватэры. Там воля...! Абы толькі не ў сваякоў! Тыя жыць не дадуць, усё бацькам данясуць, заглядаюць, дапытваюцца. Гаспадыня чужая, бывае, таксама амаль праз дзірку на цябе глядзіць, не пазволіць цябе наведаць нават сяброўцы са школы, а аб хлопцах і не гавары. Але так толькі бывае, бо мае сяброўкі робяць, што захочуць. Але яны грошы маюць...! Каб мае бацькі мне столькі давалі, як ім, я б зажыла!

III

— Як жа, трэба пагуляць. Бо і калі гуляць, як не ў гэтыя гады, калі цябе рэўматызм не ломіць, а ногі самі ходзяць? Я сваю Малодшую пускаю на танцы, трэ ж паказаць, дзяўчына ў парадку, усё на сваім месцы, і лыдка нябрыдкая, і сама недурная, не горшая ад чужых. Старэйшая замужам год, хутка дзіця будзе. Кончыла 18 і зараз замуж выскачыла. Чаго чакаць? Хлопец, значыцца муж, цяпер у арміі, а

Так загалоўлены артыкул прафесара Ежы Тамашэўскага, які быў змешчаны ў тыднёвіку *„Палітыка“* ад 16 сакавіка. Для нашага дзеяцтва гэта унікальна важная публікацыя не толькі з увагі на справядлівую пастаноўку праблемаў жыцця нацыянальных меншасцяў у ПНР, а ў першую чаргу беларускай. Сам аўтар артыкула належыць да ліку вядомых польскіх навукоўцаў, а газета *„Палітыка“* вельмі аўтарытэтная ў краіне.

Пытанне нацыянальнай асветы. Прафесар Тамашэўскі лічыць, што з’ява заняпаду яе павінна непакоіць не адных тых, для каго яна, гэтая асвета, існуе. Прапануе пры гэтым, каб — дзеля роўнасці шанцаў ды паглыблення пашаны да роднае мовы — напрыклад, беларускі ліцэіст, які паступае, скажам, у Варшаўскі універсітэт здаваў экзамен па беларускай мове, замест польскай (што зусім магчыма!).

Заняўся аўтар артыкула таксама адносінамі да нацыянальных меншасцяў з боку пераважаючага польскага грамадства. У гэтых справах зусім не лепей, чымсьці са школамі. На практыцы ніхто ў істотных маштабах не змагаецца супроць усялякіх узаемных нянавісцяў, якія так шчодра пасеялі між намі мінулыя часы і эпохі. Яны цвітуць асатом на недагледжаным полі, а выкарэньванне іх трэба пачынаць ад польскага менавіта грамадства, якое якраз сваімі паводзінамі і прадвызначае настроі ды псіхалагічную сітуацыю сярод меншасцяў. Пачынаць жа з адваротнага кірунку гэта зайсці ў сляпы завулак — меншасць не можа быць іншай, чымсьці адносіны да яе з боку большасці. Гэта адназначнае, як нейкі закон прыроды!

# Kłopoty z mniejszościami

Патрэбны выдавецтвы нацыянальных меншасцяў, асабліва ў галіне літаратурнага руху, які праявіў свой дынамізм, напрыклад, у нас, беларусаў. Адсутнасць нармальнай базы дзеля таго, усё яшчэ саматужніцтва ў гэтым не спрыяе акуратнаму развіццю наогул, а літаратурнаму працэсу перш за ўсё. Лягчэй у нас выдаць кніжку ў польскім перакладзе, чымсьці на мове арыгінала.

Значнай праблемай з’яўляецца ўдзел, скажам, беларусаў у органах улады. Здавалася б, банальная справа, бо столькі ўсюды нашых жа!.. Аказваецца, усё гэта не так: чым вышэйшая пасада, тым менш такіх, што прызнаюць сябе беларусамі (хоць пакуль былі „маленькімі“, былі і беларусамі і патрыётамі нават!). А на ваяводскім узроўні ўжо і не дашукаешся іх зусім (апрача некалькіх адзінцоў, быццам экзатычнае выключэнне!).

Ці не ўпершыню ў польскай публіцыстыцы высоўвае Ежы Тамашэўскі на парадак дня грамадска-палітычнай думкі пастулат двухмоўя на тэрыторыях, заселеных меншасцямі (у нашым выпадку маглі б гэта быць шыльды на беларускай мове побач з польскай, гэтак жа дарожныя знакі ды назвы вуліц і ўсе публічныя надпісы).

Урэшце звяртае ён увагу на тое, што ў меру цывілізацыйнага і культурнага прагрэсу нашага часу нацыянальныя меншасці развіваюцца разам з дзяржаўнымі народамі, і вырастаюць у іх патрэбы штораз вышэйшага разраду. І чым хутчэй будуць створаны ўмовы дзеля іх задавальнення, тым лепей будзе ўсяму грамадству краіны.

**С. Я.**

Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

## ПОСЕЮ Я РУТОНЬКІ...

**(веснавыя — „огулькі“)**




Ой, нэ йді, дошчыку, чужою стороною:
ой, посею я рутонькі над водою,
ой, посею я рутонькі над водою.
Рості, рутонько, дробная, зэлёная —
тэбэ сіеяла діўчына молодая,
тэбэ сіеяла діўчына молодая.
Тэбэ сіеяла і Бога просіла,
коб з тэбэ, руто, віеночок увіла,
коб з тэбэ, руто, віеночок увіла.

* ✲ *

Молоды хлопэць, я тое добрэ знаю:
ты мэнэ любіш, я й посагу нэ маю,
ты мэнэ любіш, я й посагу нэ маю.
Ты й мэнэ любіш і хочэш мэнэ браті,
а я нэ маю посагу выдаваті,
а я нэ маю посагу выдаваті.

. . . . . . . . . . . . . . .

Чужы нэвіесты жэнут волы ў дубровы,
а моя нэвіеста спіт у новуй коморы,
а моя нэвіеста спіт у новуй коморы.
Ой, спі, нэвіесто, а бодай ты нэ встала —
выжэнь той посаг, што й од батька нагнала,
выжэнь той посаг, што й од батька нагнала.
Діеўчына встала, з постэлі схватіласе
і бэз водіці — слёзкамі ўмыласе,
і бэз водіці — слёзкамі ўмыласе.
І бэз водіці — слёзкамі ўмыласе,
і бэз ручнічка — хвартушком утэрласе,
і бэз ручнічка — хвартушком утэрласе.

Ад Уладзіміра Ваўранюка, 1923 года нараджэння, і яго сястры Ніны Ляўчук, 1935 года нараджэння, вёска Тыневічы Вялікія гм. Нарва, запісаў 7 лістапада 1984 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.

яна ў мяне, у хаце жыве, міска ды лыжка знойдзецца... Мы яшчэ самі маладыя, разам унучка падгадуем...

Старалася, каб гэтых... канфліктаў між пакаленнямі не было, значыцца, каб з прагрэсам йсці. Але дысцыпліна ў хаце, як трэба, бацька толькі „ша“ скажа — і ходзяць усе, як на шнурочку. Але паставіў ясна: так і так, тое можаце, а таго не, тады й тады вярнуцца, грошай хочаш — на што? — на, купляй, хочаш замнога — канчай школу, зарабі. Замуж хочаш — ідзі, але за добрага чалавека, перш разглядзі, які ён. Бо ведаеце, спачатку ён можа і залаценькі, а пасля чорт кастрабаты з яго вылезе. Але Старэйшая ўзяла ды ўкляпалася, залез у сэрца, дзіцюк бы яна сама, то і не ўтаворыш. А можа і лепей, што за маладзенькім пайшла, бо старэйшага хоць ты пераламі — ужо не зменіш...

Няхай цяпер Малодшая пакуль гуляе, шукае сабе хлопца, мы ёй не перашкаджаем. Каб ано свой хлопец быў. Няхай ездзіць па забавах, у нашых ваколіцах людзі нядрэнныя, свае. А яна разумная, мы ёй верым...

IV

— Калісь пасля сямі класаў пачатковай школы дзеці дарослыя якіясь рабіліся, помню. Не то што каб курылі ці пілі, але насілі сябе па-даросламу, думалі так аб сваіх справах — да работы йсці, грошы свае мець, каб ад бацькоў не залежаць. А цяпер... Не, не наракаю на свайго сына. Цяпер — ліцэй, вышэйшая школа... Чалавека дзіцём лічаць да 30 год, і ён так да жыцця падыходзіць, як да забавы. Як ажэніцца рана, то прымушаны дарослым быць, а калі нікога не мае на галаве, то сам, бы вецер у полі — папіў, паеў, пагуляў, калі бракуе чаго, у падбежкі да бацькоў. Мы, старыя, рана даволі сем’ямі абзавяліся, хутка дзеці пайшлі, цяжкое пасляваеннае жыццё. Я сам і не ведаў, як малое на рукі ўзяць... Выхоўвалі, як умелі, чым мелі — кармілі, адзявалі. Мы ведаем, што такое праўдзівае гора. Няхай хоць нашыя дзеці яго не знаюць, крывай Божа. Да старасці яшчэ нажывуцца.

V

— Якога чалавека выпусціў з рук, такога і маеш. Навучыў яго пашаны да людское працы, да чалавека, сябе, роднага слова — будзеш мець пацеху, і людзі скажуць: вось гэтае дзіця з добрае сям’і...

Я вось была ў гасцях у Гайнаўцы. Да дзетак гаспадыні прыйшлі госці — іх равеснікі (7, 8 год). Макравата было, дзеці распрануліся, выцерлі ногі. Але пані іх прагнала. Сказала так ім у вочы: пашлі вон, чаго вас тут за халера прыносіць, панавалакаюць усяго. Дзеці пабеглі. А гаспадыня пачала хваліцца сваімі — як яны добра выхаваныя, разумныя, добра вучацца, вершыкі гавораць, песенькі спяваюць, прыгожа на скрыпцы іграюць, паслухмяныя... І дзеці кланяліся, гаварылі, спявалі. Калі я выйшла, на панадворку на лавачцы з сяброўкай ужо сядзела гаспадыніна дачушка.

— Няхай ано вырасту! — сказала яна горача.

Цікава, якая яна вырасце.

**Міра Лукша**

В маёй званіцы

# ГЛЕДЗЯЧЫ ЗБОКУ

Не запішаш думкі, то ўцячэ, прападзе, бы маладыя гады. Не дагоніш. А як запісаць, калі тых думак мноства?!

Аднойчы восенню, едучы дадому, склаў я цэлы сюжэт апавядання. І што? Нічога. Апавяданне дагэтуль пішацца, а да вясны так блізка, як да суседкі за сцяною. Прычым тут суседка? Непрычым. Не ведаў бы, што жыве за сцяной, каб суседка ў любую пару дня і вечара не наведвала маю кватэру. Дзякуючы прыроднай ветлівасці жонкі, суседка ў нас амаль член нашай немалой сям’і.

Захацелася мне напісаць апавяданне аб вялікім каханні. Не ведаю чаму, але хто толькі бярэцца за пісанне, то піша аб каханні. А аб каханні напісана ўжо мора слоў. Не мора — акіян слоў. Што я магу даліць да гэтай стыхіі? Якою кашай запаскуджу густую ваду акіяна літаратуры аб каханні?

Як пісаць аб каханні чыстымі, крынічнымі радкамі? Ці так як піша Ян Чыквін:

— Ты — цаца!
— І ты — цаца!
— Будзем кахацца?
— Давай, Каця!

А можа звярнуцца па кансультацыю да творчай групы „Белавежа“? Па прозе, здаецца, кансультант Сакрат Яновіч.

Цяпер усе кансультанты. Усе. Як прайду праз школу пісання апавяданняў, тады паеду з групай на літаратурны пленер, буду „ўмацоўваць сяброўскія сувязі і паглыбляць кантакты“, больш менш так, як робіць гэта Ян Чыквін з Каცяй (шчаслівчык!). Я за тым, каб паглыбляць! Пэўна, тады маё апавяданне выльецца ў раман. Раман аднак не трэба пісаць, бо хто мне яго надрукуе.

А можа ўзяць кансультацыю па паэзіі і
появітісь
— втопітісь
настояшчо встріэтітісь
(З. Сачко)

Тады не буду пытаць, чаму „замерла кроў у жылах“, не будзем „аддаляцца ад сябе, як бяздомныя людзі“ ( Жэня Мартынюк). І ў кожнай „Ніве“ будуць мае творы, як В. Шведа. Можа тады ўдасца мне выгрызці яго з літаратуры і самому ўзабрацца на Парнас?

**М. Махнацкі**

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Давалі, ды з рук не выпускалі.

Згаворлівы чалавек бярэ, што ў рукі пападзе.

Каб панам быў, у масле б плаваў, сырам папярхаўся.

Маленькі судок — без солі гадок, а вялікі завядзеш — зусім прападзеш.

Мужыку ў пекле горш, як пану, бо пан спакойна сядзіць у катле і кіпіць, а мужык мусіць дровы рубаць і пад кацёл класці.

## ВЕСТКІ з БССР

### СПОРТ

■ Мацнейшыя красмены краіны разыгралі сваё першынство на 12-кіламетровай дыстанцыі ў Кіславодску.

Пераможцам сярод мужчын стаў мінчанін Віктар Чумакоў. Ён перадолеў трасу за 37 мінут 31,8 секунды.

■ На зімнім чэмпіянаце СССР па лёгкай атлетыцы беларускі спартсмен Генадзь Валюкевіч заваяваў залаты медаль у трайным скачку — 17 метраў 32 сантыметры. Гэта лепшы вынік сезона ў залах свету.

Яго жонка Ірына Валюкевіч стала бронзавым прызёрам па скачках у даўжыню.

■ У Вільнюсе прайшоў асабіста-камандны розыгрыш кубка СССР па барацьбе самба.

Адзін з ганаровых прызоў дастаўся мінчаніну В. Япрынцову.

■ Першынство краіны і спаборніцтвы на прызы газеты „Комсомольская правда“ па скачках у ваду прынеслі поспех беларускім спартсменам.

У асобных відах першынствавалі Уладзімір Алейнік і Аляксей Когалеў. Трэція месцы ў Анжэлы Стасюлевіч і Андрэя Квачынскага.

■ Добра выступілі савецкія барцы класічнага стылю на міжнародных спаборніцтвах на Кубак Пер Гюнта ў Нарвегіі. Яны занялі шэсць першых, два другія і адно трэцяе месцы.

Сярод пераможцаў — мінчанін Міхаіл Пракудзін і Ігар Каныгін з Віцебска.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Шаноўны Астроне! Парай, калі ласка, што рабіць. Мяне ў адну з апошніх начэй праследавалі неспакойныя сны. То снілася, быццам еду я ліфтам. Еду, але наўкол няма ніякага пункту апоры. Ліфт затрымліваецца, але я не магу з яго выйсці, бо няма дзе ступіць нагою. Няма лесвічнай пляцоўкі, а ліфт быццам бы падвешаны незалежна ад кватэр. Мяне агортвае страх, што як толькі я адчыню ліфт, то магу вываліцца, і таму я не выходжу.

Трэба сказаць, што такія сны сняцца мне даволі часта.

А вось у другой частцы гэтай фатальнай ночы мне пачало сніцца штосьці такое, што мне яшчэ ніколі дагэтуль не снілася. Вось быццам мая ўся сям'я (я, муж і дачка) лётаем у паветры. Мы з дачкой быццам бы падвешаны пад парашутам, а муж мой цягне гэты парашут і таксама ляціць. І так падлятаем мы да высокіх гор. Муж мой паднатужваецца, і мы пералятаем над першай гарой. Ляцім далей. Навокал пачынаюцца цудоўныя краявіды. Ізноў гара перад намі. Ізноў муж, як птушка, узлятае ўверх, і мы ўсе пераадольваем наступную гару. Потым была гара трэцяя, а тады і чацвертая. Гэта апошняя была вельмі прыгожая, парослая зялёнай травой. І яе мы пераадолелі. Трэба яшчэ, Астроне, адзначыць, што ў гэтым сне было мне неяк лёгка, і, хаця пераадольваць горы не было так лёгка, то ўсё ж мы іх „бралі“. Што можа абазначаць мой дзіўны сон?

**Люся**

Люся! Першы сон пра ліфт сведчыць аб тваіх клопатах і непакоях. Нешта цябе турбуе і не дае спакойна спаць. Не адчуваеш сябе ўпэўненай у нейкай справе, бракуе табе там нейкай падпоры.

Што датычыць другога сну, дык у нейкай ступені ён пацвярджае твой стан напружання пры пераадольванні нейкіх цяжкасцей. Аб гэтым сведчаць перш за ўсё горы, якія стаялі ў вас на перашкодзе. Але ты, Люся, і сама магла ўжо дадумацца, што справы твае павінны завяршыцца добра, паколькі ваша сям'я пераадолела ў канцы канцоў усе перашкоды, дзякуючы твайму мужу, які цягнуў ваш парашут. Трэба аднак заўважыць, што лётанне ўва сне наогул абазначае добры зыход справы, калі ж дадаць да гэтага прыгожы краявід і зялёную траву, то можна нават стаць аптымістам!

**Астрон**

# Да Зялёнай Гуры праз Бельск

Ужо некалькі гадоў у Бельску праводзяцца ваяводскія элімінацыі конкурсу „Савецкая песня“. Таксама і сёлета дарога спевакоў з Беласточчыны да Зялёнай Гуры вядзе праз гэты горад. Яна адкрылася для найлепшых на конкурсе, які адбыўся 16 сакавіка. Першае месца заняла салістка Юстына Кардзюкевіч — вучаніца Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Т. Касцюшкі ў Бельску. На цэнтральныя элімінацыі ў Інаўроцлаў паедуць і лаўрэаты II месца. Яго падзялілі два мужчынскія калектывы: актэт беларускага хору з Гайнаўкі і квартэт „Колакал“ з Беластока.



Першае месца заняла Юстына Кардзюкевіч з Бельска.

У актэце з Гайнаўкі спявалі: Мікалай Анікіюк, Янка Якімюк, Уладзімір Яноўскі, Яўген Блізнюк, Мікалай Бушко, Уладзімір Мінько, Пётр Юшкевіч і Уладзімір Раманюк. Звярнуўся я да музычнага іх кіраўніка мгр. Аляксандра Лукашука, каб падзяліўся сваімі заўвагамі аб бельскіх элімінацыях. Ён сказаў:

— Перш за ўсё хачу падкрэсліць кампетэнцыі камісіі, якая ацэньвала выступленні, а гэта вельмі важнае, каб вылучыць найлепшых удзельнікаў. Для нас такія агляды з'яўляюцца добрай нагодай, каб праверыць і параўнаць эфекты сваёй працы.




„Колакал“ — чацвёрка сімпатычных хлопцаў.

— Да аглядаў вы падрыхтавалі тры актэты з хору: жаночы, мешаны і мужчынскі.

— Хацелася паказаць гайнаўскі хор. Мастацкі ўзровень усіх актэтаў бадай роўны. Сакрэт таго, што кожны з іх дасягнуў розных ступеняў элімінацый, у псіхічнай вытрымцы. На сцэне патрэбны яшчэ смеласць і вопыт. Некаторыя з мужчын ужо ў мінулых гадах паспяхова выступалі, таму на гэты раз мужчынскі актэт паказаў сябе найлепш.

Радуюць поспехі харыстаў з Гайнаўкі. Жадаем ім вялікіх поспехаў.

„Колакал“ — гэта чацвёрка сімпатычных хлопцаў з Беластока. У кожнага дасканалы голас. На аглядзе ў Бельску выклікалі яны сімпатыю ўсіх прысутных. Папрасіў я іх, каб расказалі пра сябе чытачам „Нівы“. З задавальненнем прынялі маю прапанову. Тады прадстаўляю спевакоў „Колакала“.

Багдан Пура — вядучы тэнар і адначасова мастацкі кіраўнік квартэта. Працуе тэхнікам-электронікам на прадпрыемстве „Унітра-Сервіс“ у Беластоку.

Мірaслаў Аляксейчук (другі тэнар) працуе электрамеханікам на энергетычным прадпрыемстве „Беласток“, вучыцца завочна ў тэхнікуме.

Аляксандр Філіманюк (барытон) — студэнт пятага курса Беластоцкай палітэхнікі.

Адам Пура (бас) — малодшы брат Багдана. Працуе ў гаспадарчым аддзеле адной з беластоцкіх бальніц і вучыцца завочна ў Гастранамічным тэхнікуме.

Усе яны з'яўляюцца членамі душпастырскага хору праваслаўнай моладзі пры Саборы св. Мікалая ў Беластоку. Да конкурсу „Савецкая песня“ падрыхтаваліся самі. Трэба сцвердзіць, што вельмі добра.

Трэцяе месца ў Бельску заняла салістка Ірэна Шавель з Беластока.

## ПАРТЫЗАНСКІЯ СЦЕЖКІ

# КАХАЮ МАМУ

Здавалася, што ўсе ўжо клопаты асталіся за імі. Улады ўрэшце перасталі цікавіцца Цабаёвай выхаванкай і расла яна бестурботна, як усе іншыя дзеці дашкольнага ўзросту. Вядома, усе гэтыя, хаця і незразумелыя дзіцяці, падзеі пакінулі нейкі след у яе душы. Дануся ніяк не магла сабе паясніць, чаму якраз яе хацелі паслаць на навуку кудысьці далёка, аж за мяжу, калі ўсе іншыя дзеці вучацца ў сваёй пачатковай школе, што ў Міхалове. Адзін кіламетр шашою — і ўжо школа. Калі прабавала даведацца аб усім гэтым ад бацькоў, тады мама туліла яе да сябе і гаварыла:

— Ужо не думай аб гэтым. Нікуды ты не паедзеш! Нікому мы цябе не аддамо.

У адказ Дануся моцна, моцна брала маму за шыю. І хапіла б адных гэтых абдымкаў, каб без слоў выказаць свае шчырыя пачуцці. Але Дануся яшчэ дабаўляла:

— Я моцна, моцна маму кахаю!

Яна, крыху памаўчаўшы, дакінула:

— І тату таксама...

Гэтыя словы паўтараю я за Янінай Цабай і чую хваляванне ў яе голасе, калі гэтая жанчына давярае мне гэты эпізод з іх сямейнага неспакойнага жыцця.

— Я вельмі веруючая жанчына, — сцвярджае яна. — Веру, што нічога без волі Бога на зямлі не дзеецца. Калі чацвёра маіх дзяцей, адно за другім, пайшлі ў неба, значыць, была гэта яго воля, — яна набожна перахрысцілася. — Пасля, калі ў нас нарадзіўся сын і ён шчасліва жыве, я падумала, што гэта ўзнагарода ад Бога за тое, што мы выратавалі ад яўнай смерці гэтае рускае дзіця. Узнагарода і адначасова знак Божы, што адкупілі мы ўжо нейкі свой грэх вялікі, аб якім мы і не ведалі, але ён быў, бо без прычыны Гасподзь Бог нікога не карае. Сына мелі мы свайго, уласнага, дачкі, аднак, не дачакаліся. Асталася нам толькі Дануся. І кахала яе я, як родную дачку. А можа яшчэ і больш, бо я заўсёды памятала, што яна ў нас сірата, што ўсе суседзі і знаёмыя глядзяць на нас ды зараз узялі б на языкі, як штосьці каму не спадабалася б у нашых адносінах да гэтага дзіцяці. Я заўсёды папярэджвала свайго мужа:

— Глядзі, Ендрак, не крыўдзь ты Данусю, бо людзі нас задзяўбуць сваімі плёткамі.

Такім чынам маленькай Данусі заўсёды хапала і яды, і вопраткі, а да першага ўрачыстага прычасця падрыхтавала яе маці, як сапраўдную ляльку. Уся ў белым і толькі чарнявыя валасы свабодна спадалі на плечы дзяўчынкі. Сама пані Яніна не магла вачэй адарваць ад сваёй Данусі, калі наглядала за ёю ў касцёле. — Анёлак, проста — анёлак! — паўтарала яна ў захапленні.

Неўзабаве адбылася і другая падобная ўрачыстасць. Дануся пайшла ў школу. І зноў пані



**Ісус Хрыстос уязджае ў Ерусалім. Разьба па дрэву Браніслава Хаенты з Сялдецкага ваяводства. З выстаўкі „Сучасная народная разьба ў зборах Этнаграфічнага музея ў Торуні“ ў Беластоцкім акруговым музеі, люты-красавік 1985 г.** **Фота М. Гайдука.**

(Працяг са стар. 7)

### КАХАЮ МАМУ...

чэння пачатковай школы, калі я хапела паступіць у школу для прадшкалянак.

Адным з важнейшых дакументаў, якія патрабуюць ад кандыдатаў на вучняў у кожнай сярэдняй школе, з'яўляецца метрыка нараджэння. Метрыка нараджэння Данусі Цабай знаходзілася ў міхалоўскім касцёле. Узяла яна гэтую метрыку і нічога не магла зразумець. У ёй не было нічога аб яе бацьках, аб даце і месцы нараджэння. Яніна і Андрэй Цабаі выступалі як апекуны дзіцяці невядомых бацькоў. Значыць, пані Тамашукова гаварыла праўду! Расплакалася Дануся над сваім лёсам. Даведалася праўду, але праўда аказалася горкая, як пякучы палын, які прыйшлося, на жаль, праглынуць.

Гэтакай метрыкі ў школе не прынялі. Дзіцё з прозвішчам Данута Цабай фармальна не існавала. Пад гэтым прозвішчам выступала нейкая дзяўчынка, якая толькі думала, што яна Данута Цабай. Давялося падацца ў суд, каб аформіць акт прызнання бацькоўскіх правоў людзям, якія яе выратавалі ад смерці. Гэта ўсё цягнулася даволі доўга і ў школу для выхавацельніц дзяцей дашкольнага ўзросту Данута ўжо не паспела. Над бедным дзіцём злітавалася дырэкцыя Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Міхалове. Задаволіліся нейкім там пасведчаннем з гміны і абяцаннем, што сапраўдную метрыку даставяць пазней, калі закончыцца справа ў судзе.

**Віктар Рудчык**

### БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК


Jacek E. Wilczur — Polski Kościół prawosławny na hitlerowskim stosie. „Tygodnik Polski" (W-wa), R. 1984, Nr 39, s. 6.

Martyna Radłowska — Będzie muzeum prawosławne. Rozmowa z Prawosławnym Metropolitą Bazylim. „Argumenty" (W-wa), R. 1984, Nr 38, s. 5.

Jubileusz Arcypasterza (Metropolity Bazylego). „Prawosławny kalendarz na 1985 rok", s. 80—82.

Jerzy Andrejuk — Problem autokefalii Kościoła Prawosławnego w Polsce w okresie międzywojennym. Jak wyżej, s. 83—109.

Anatol Leszczyński — Spór między kahałami Grodna i Tykocina o hegemonie nad skupiskami żydowskimi pogranicza Korony z Litwą w XVII w. „Biuletyn Żydowskiego Instytutu Historycznego w Polsce" (W-wa). R. 1983, Nr 2—3, s. 85—95.

Jacek Waloch — Kalejdoskop tatarski. (O polskich Tatarach). „Fakty" (Bydgoszcz), R. 1984, Nr 51—52, s. 13—14.

Piotr Łuczka — Mity i fakty. Rozmowa (o Kresach Wschodnich) z Jerzym Tomaszewskim. „Nurt" (Poznań), R. 1984, Nr 4, s. 1, 4—6.

Michał Jagiełło — Program kulturalny wileńskiego „Paxu" (1933—1938), „Przegląd Powszechny" (W-wa), R. 1984, Nr 2, s. 236—253.

Czesław Łapicz — Funkcje sufiksu -ina a zagadnienia etnogenetyczne wschodniej Białostocczyzny. „Acta Universitatis Nicolai Copernici". Nauki Humanistyczno-Społeczne. Z. 138. Filologia Polska (Toruń), R. 1983, Z. 23, s. 73—88.

Radzieckie wytwórnie filmowe. Biełaruśfilm (Mińsk). „Filmowy Serwis Prasowy" (W-wa), R. 1984, Nr 20, s. 5.

Izabela Ratman-Liwerska — Podział ról w rodzinach aktywistek organizacji kobiecych Białostocczyzny. „Wieś Współczesna" (W-wa), R. 1984, Nr 4, s. 136—140.


**П. Байко**

З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ

# ВЯЛІКДЗЕНЬ

Пасля гучнай масленіцы з яе вясёлымі гульнямі і гасцяваннямі наступаў час апамятання, задумы, пакуты і посту перад надыходзячым святам уваскрасення. Ужо ў старажытнасці сельскагаспадарчыя плямёны заўважылі ў прыродзе акрэслены парадак, пэўныя законы, кіруючыя светам. Сумныя восеньскія палі, засеяныя, здавалася б, мёртвым зернем, ажываюць з надыходам вясны свежай сакавітай зеленню. Уваскрасаюць. І гэта было асноўнай прычынай, што сярод многіх народаў узнік культ багоў расліннасці і сонца. Пачало ўкарэньвацца перакананне, што ніхто іншы, акрамя іх, сваёй смерцю і ўваскрасеннем кармілі чалавека, абяспечвалі яго існаванне. А чалавек са свайго боку ў доказ удзячнасці і каб не ўгнявіць іх прыносіў ім ахвяру.

Паданні пра паміраючых і ўваскрасаючых багоў вядомыя былі ўжо і ў Вавілоніі, і ў Індыі, і ў Егіпце. Знялі іх плямёны індзейцаў — астэкі і інкі.

Свята ўваскрасення, якім канчаўся сямітыднёвы Вялікі Пост — гэта свята радасці, смеху, шматлікіх гульняў. Пасха, Вялікдзень, Wielkanoc — тры тэрміны на адно і тое ж свята. Што датычыць двух апошніх — справа толькі ў выдзяленні адной ці другой часткі сутак. Але калі гаварыць пра Пасху, дык тэрмін, несумненна, узяты ад вясенняга свята Пасхі, якое святкавалі пастушыя яўрэйскія плямёны, вандруючыя па аравійскіх пустынях. Абрад, так як і ў плямён земляробчых, быў захадам залагоджання багоў пустыні, каб такім чынам адсунуць ад сваіх стадаў усялякае няшчасце. Тэрмін бярэ пачатак ад гебрайскага слова „passak" або „peszach" і значыць: упрасіць, заласкавіць, ці абмінуць. Потым, калі яўрэйскія плямёны перайшлі на тэрыторыю сённяшняй Палястыны і заняліся апрацоўкай зямлі, даўняя іх Пасха пачала зменьвацца і стала святам пачатку жніў, інакш Chaga Macot. Адгэтуль і бярэ свой пачатак вядомая „маца".

Першыя хрысціяне, а былі гэта ў асноўным людзі яўрэйскага паходжання, свята Пасхі спалучылі з мукамі і смерцю Збавіцеля, інакш гаворачы Месіяша — божага памазанца, што ў грэчаскай мове гучыць „хрістос". І была гэта „Пасха мукі". Потым далучылі да таго „Пасху ўваскрасення" і з цягам часу першая пачала адносіцца да Вялікага Тыдня, а другая да Вялікадня.

Вялікдзень... Дзень гэта сапраўды вялікі і ў рэлігійным жыцці, і ў народнай традыцыі. Неадлучным элементам Вялікадня з'яўляецца яйка, маляванае фарбамі і ў розныя ўзоры, дзе часта паяўляецца сімвал уваскрасення Хрыста. Рыхтавалі іх наогул у апошнюю перадвелікодную суботу. Свянчаным яйкам распачыналі святочны дзень. Нельга было прыступаць да снедання, пакуль не разгавеліся яйкам. І гэтак на працягу ўсіх трох дзён. Рытуальнае спажыванне яек — гэта звычай стары, вядомы ўжо грэкам і рымлянам, для якіх яйка было сімвалам жыцця.

Першы дзень Вялікадня... У гэты дзень людзі не віталіся традыцыйнымі словамі. Радасную звестку, пачутую ў царкве, неслі ўсім сваім знаёмым, гаворачы: „Хрыстос уваскрос!" Радасць была такая вялікая, што людзі верылі нават у ігранне ў гэты дзень сонца, якое, паводле іх, калі толькі паказалася над зямлёю, зіхацела рознымі колерамі.

Вялікдзень, а па сутнасці велікодныя святкаванні былі поўныя магічных практык, звязаных з вадою і агнём. Вера ў магічную сілу вады пратрывала вельмі доўга. Яшчэ не так даўно дзяўчаты ў перадвелікодную суботу ішлі да рэк і ручаёў, каб абмыць цела, а ў асноўным яго хворыя месцы. Памагала гэта толькі тады, калі мыліся ў поўнач. Гэтакім чынам можна было пазбыцца вяснушак і залагодзіць розныя болі.

Вера ў магію, ва ўсеўладную сілу прыроды, паяўлялася з развіццём людской свядомасці. І ператрывала яна ў забабоннай форме аж па сённяшні дзень. Прыкладна, каб не балелі зубы, дык нельга ў першы дзень Вялікадня есці пірага на малацэ, не елі першага кавалка, адкроенага ад „паскі" (велікодны пірог). Клалі яго ў стадолу з першымі звезенымі з поля снапамі збожжа, каб не заводзіліся там мышы. Нельга было ў гэты дзень ісці яйкамі навыбіткі, каб не збіваць летам на нагах пальцаў (зразумела, калі хадзілі боса). Захаваўся таксама рытуал перадсвяточнага купання, толькі што не адбываецца яно ў рэчках, а дома. Як правіла, у першы дзень Вялікадня не хадзілі ў госці. Забавы і гульні пачыналіся ад другога дня. Найпрыгажэйшая захаваная традыцыя — гэта раздаванне валачобнага, у асноўным яек і салодкіх ласункаў. Свайго роду цікае спаборніцтва паміж дзецьмі за колькасць сабраных яек. Так, як на Каляды каляднікі, так на Вялікдзень хадзілі з песнямі валачобнікі. На жаль, апошняе ўжо амаль поўнасцю загінула. Засталіся толькі запісаныя этнографамі або ў памяці людзей валачобныя песні, як след па цікавым абрадзе.

Святы канчаліся, але велікодная традыцыя трывала аж да Уазнясення. Да гэтага часу „хрыстосаліся" (віталіся ўпамянёнымі словамі). Людзі верылі таксама, што ў гэты перыяд прабывання Хрыста на зямлі бяссільныя ўсе дэманы і страхі.

Свята Вялікадня — гэта адзін з этапаў вясенніх абрадаў, якіх па сутнасці яно не адкрывала, але і не канчала.

**Міхась Шаховіч**

# ЗОРКА

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


Янўген Крупенька

### ВЯСНЯНА

Сёння рана-рана  
Крочыла Вясняна,  
З прамяністых рукавоў  
Выпускала сакалоў:  
Там, дзе яны селі,  
Травы зелянелі,  
Там, дзе яны палі,  
Кветкі вырасталі,  
І звінелі песні  
У сінім паднябессі.

### СПЯВАЮЦЬ ДЗЕЦІ

Ідзе вясна палямі,  
пералескамі.  
Квітнее лес блакітнымі  
пралескамі.  
Я першая букецік іх збяру  
І любай маме шчыра падару.

Няхай красуе мір  
на белым свеце  
І ясна свеціць сонца  
ў вышыні.  
Спяваюць дзеці,  
І смяюцца дзеці,  
Бы раўчукі у веснавыя дні.

Валя Басянок,  
васьмікласніца з БССР.




ВЯСЁЛЫХ І ЗДАРОВЫХ СВЯТАЎ І ШМАТ-ШМАТ КАЛЯРОВЫХ ПІСАНАК І МАЛЯВАНАК ЖАДАЕ ЎСІМ ДЗЕЦЯМ „ЗОРКА".

*А цяпер вазьміце каляровыя алоўкі і прыгожа расфарбуйце гэтае велікоднае яйка.*

### МУЗЫКАЙ ВЯСНЯНАЮ

Музыкай вясняпаю  
Разгудзеўся бор,  
Песняю жаданаю  
Грымнуў птушак хор.

Сонца ўсміхаецца  
З вышыні нябёс, —  
Косы рассыпаюцца  
На лугі, на лес.

Ўнізе рэчка плешчацца,  
Хваляю шуміць,  
Рыбка ў ёй трапечацца,  
Срэбрам зіхаціць.

Краскі, як вясёлкі,  
Кружаць карагод,  
Залатыя пчолкі  
Носяць ў вулей мёд.

Усё жывое радасна  
Па зімовым сне  
Пяе песні шчасныя  
Красуні-Вясне.

А вы, дзеткі родныя,  
У цудны месяц Май  
Песняю чароўнаю  
Слаўце родны край!

Сяргей Новік-Пяюн.

## ДЗЕЦІ З ПАШКОЎШЧЫНЫ



Трэцякласніцы Каця Залеўская і Ірынка Якубюк разам з пяцікласнікам Славікам Залеўскім з пачатковай школы ў Пашкоўшчыне любяць спяваць і іграць. Фота М. Гайдука.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

### ЯК ЛІСУ ВАРОНА АШУКАЛА

**Беларуская народная казка**

Запладзіўся на дубе дрозд. Звіў гняздо, вывеў дзяцей. Пачула гэта ліса, што ў дразда дзеці ёсць. Падыходзіць ліса да дрэва, хвастом памахвае.

— Дрозд, а дрозд, ці ты тут?

А ён адказвае:

— Тут.

Яна гаворыць:

— Злезь далоў, буду дуб сячы.

Пачаў дрозд прасіцца:

— У мяне дзеткі малыя, не сячы ты дрэва.

Яна яму кажа:

— Кінь адно дзіцятка, дык не буду.

Падумаў, падумаў дрозд, і хоць шкада было дзіцяці, але хоць іншыя застануцца, і скінуў адно.

З'ела лісіца аднаго, усмакавалася і давай кожны дзень прыходзіць страшыць яго.

Скідаў ён дзяцей датуль, пакуль ужо адно засталося.

А варона ў яго была кумой. Вось ён паляцеў на раду да вароны.

— Што рабіць, — кажа, — апошняе дзіця гіне.

Вось варона і параіла.

— Дурань ты, — кажа, — гэта ж прыходзіць ліса. А як прыйдзе яшчэ, кажы: „Хоць у дуб галавой".

Прыходзіць ліса, а дрозд ужо вясёлы сядзіць, ужо ведае, што адказаць, ён ужо смелы.

(Працяг на стар. 10)

**ДА 40-ГОДДЗЯ ПЕРАМОГІ НАД ФАШЫЗМАМ**

## ЗОЯ

**Пачатак у папярэднім нумары**

У лагеры Зою сустрэлі як родную. Асабліва клапацілася аб дзяўчынцы доктар цётка Даша. Яна ледзь не з лыжачкі карміла Зою, клала з сабой спаць і ўсё шаптала, што партызаны абавязкова адпомсцяць, ужо даўно помсцяць ворагу за нявінна пралітую кроў людзей, за скалечанае маленства такіх, як Зоя, за спаленыя гарады і вёскі. Словам, за ўсё, за ўсё. Дзяўчынка слухала цётку Дашу і нядаўна перажытае паступова быццам зацямнялася. Толькі па начах яе ўсё яшчэ душылі кашмары, і яна, уся потная ад жаху, з крыкам падхоплівалася і спрабавала ўцякаць...

Нарэшце настаў дзень, калі Зоя ўпершыню ўсміхнулася яснай усмешкай. У яе выспеў за апошнія дні цвёрды намер прасіцца ў адну з баявых груп, хоць у падрыўную, хоць у разведвальную, куды ўжо возьмуць, — абы не сядзець у лагеры, а дзейнічаць, змагацца, рабіць усё, што толькі будзе ёй пад сілу. Інакш жыць яна не можа...

Так думала Зоя, рашуча ідучы да камандзірскай зямлянкі.

Камандзір выслухаў яе вельмі ўважліва і загадаў выклікаць цётку Дашу. Калі доктар прыйшла, коратка сказаў:

— Залічыце партызанку Баравінскую Зою ў шпіталь медсястрой.

Вось і ўсё. Думала, марыла ўзяць зброю і стаць у баявыя рады народных мсціўцаў, а тут на табе — шпіталь. Ціха, бяспечна. Перавязаў раненых, пакарміў, паправіў пасцель і лічы — усё тваё партызанства.

Але няхай. Няхай сабе на першым часе яна пабудзе медсястрой, санітаркай, кім сабе хоча будзе. Гэтую работу таксама некаму рабіць трэба. І рабіць добрасумленна, з душой, як і любую іншую.

І ўсё ж праз месяц-два — Зоя цвёрда верыла ў гэта — яна ў чым-небудзь сябе праявіць, і тады яе па-сапраўднаму ацэняць і давераць, ужо не самаробныя бінты, а карабін, а то, калі хочаш, і аўтамат...

Раненых у шпітальнай зямлянцы было чацвёра. Яны хутка папраўляліся, і работы ў Зоі было нямнога.

І дзяўчынка рашылі прысвяціць вольны час вывучэнню зброі. Па настаўнікаў далёка хадзіць не трэба было. Яны знаходзіліся побач: кулямётчык, падрыўнік, два аўтаматчыкі. І зброю шукаць не трэба было. На складзе ў вясёлага аднавокага Цімошы было ўсё, што трэба. Праўда, складская зброя патрабавала грунтоўнага рамонту, але пры вывучэнні яе асобныя недахопы значэння не мелі. Бездакорная спраўнасць зброі мае значэнне толькі ў баі.

Заняткі з Зояй пачаў падрыўнік. Па яго просьбе дзяўчынка прынесла ад Цімошы карабін і праз два ці тры дні ўжо ўмела зарадзіць і разрадзіць яго, разабраць і сабраць затвор, навучы-

(Працяг на стар. 10)

(Працяг са стар. 9)

## ЗОЯ

лася сумяшчаць мушку з прораззю, каб трапіць дакладна ў цэль. Паказаў падрыўнік і як зроблена самаробная міна. Зоя нават самастойна падрыхтавала вучэбную міну да „выбуху". Лёгка разабралася дзяўчынка і ў будове аўтамата. Там было ўсё на дзіва проста — спружына, стальная балванка-затвор з рукаяткай, спускавы кручок, ствол і дыск з патронамі. Адзін кулямёт „не даваўся" Зоі. Складаная машына. Але з часам трэба будзе і яго вывучыць.

Цяпер Зоя ўсё часцей і смялей пачала звяртацца да камандзіра атрада з нязменнай просьбай пасылаць на любое адказнае заданне: у засаду з хлопцамі, на падрыў эшалона, у разведку...

Доўгі час камандзір не даваў на гэта згоды. Ды, уласна кажучы, і патрэбы пільнай не было пасылаць дзяўчынку туды, дзе можна было свабодна абысціся без яе.

Але на трэцім месяцы партызанскага жыцця Зоя дачакалася свайго. Неяк надвячоркам Сашка-ад'ютант выклікаў яе ў камандзірскую зямлянку. Зоя зайшла, стала. Камандзір дапытліва паглядзеў ёй у вочы, прыкурыў самакрутку і запрасіў сесці на цурбан. Зоя села.

— Вёску Бярозаўку ведаеш? — запытаў камандзір, сядаючы насупраць.

— Ведаю, чаму ж не, — адказала дзяўчынка.

— Добра ведаеш, ці толькі па назве?

— Я там летам па месяцу і больш жыла ў цёткі Палагі. Гэта мамчына родная сястра, зусім адзінокая... Я і ў той дзень, як татку з мамай... — Зоя дрыготка ўсхліпнула.

Камандзір падышоў, мякка пагладзіў дзяўчынку па галаве:

— Не трэба, маленькая. Не трэба плакаць. Наша задача — дзейнічаць. Мы, народныя мсціўцы, павінны не плакаць, а помсціць ворагу за ўсё. Няхай ён плача. Разумееш, дачушка?

— Разумею, — ціха, але цвёрда адказала Зоя. — Я гатова, я заўсёды гатова. Даўно прашу вас даць якое заданне. — Яна ўстала з цурбана і выцерла слёзы. — Я — хоць зараз...

— Для таго і выклікаў цябе. Слухай мяне ўважліва. Ды ты сядай, сядай...

Камандзір расказаў, што ў Бярозаўцы спынілася буйнае вайсковае падраздзяленне гітлераўцаў, якія, па чутках, збіраюцца ў бліжэйшыя дні напасці на партызан. Партызанам неабходна ведаць, колькі ў фашыстаў жывой сілы, якое ўзбраенне і як ахоўваецца вёска. Але больш-менш дакладна даведацца пра ўсё гэта можна толькі пабываўшы на месцы, у Бярозаўцы. Партызанскія сувязныя тут бездапаможныя — немцы не выпускаюць з вёскі ні жывой душы.

— Канавай можна выпаўзці, — жыва падхапіла Зоя.

— Якой такой канавай?

— Не ведаеце? Ну, што ад цётчынага агарода ідзе да лесу. А лес там блізенька, рукой падаць. Калі ноччу, дык ніхто і не заўважыць.

— А раптам у канаве засада?

— Не, мусіць. Даросламу ў ёй ніяк не схавацца. Неглыбокая яна ды і зарасла хмызняком.

— Глядзі ты... — забарабаніў пальцамі па стале камандзір. — Тады, як быццам усё някепска складваецца. Што ж, калі гатова, атрымлівай заданне. Сёння ж адправішся ў Бярозаўку. З наступленнем цемнаты наблізішся да таго месца ляснога ўскрайку, адкуль пачынаецца канава. Не заблудзішся? Веру. Прапаўзеш, даведаешся ў цёткі ўсё, што можна, і адразу ж назад. З табой пойдзе кулямётны разлік Міхалені. Хлопцы будуць чакаць цябе на ўзлессі. У выпадку небяспекі, прыкрыюць.

Зоя выцягнулася ў струнку:

— Таварыш камандзір атрада. Дазвольце ісці зараз жа. Да раніцы я паспею.

— Добра, ідзі, дачушка, — зусім не па-ваеннаму адказаў камандзір. — І вяртайся. Чуеш? Абавязкова вяртайся. — Галаву Зоі зноў мякка пагладзіла ласкавая рука...

**Яўген Курто**

Заканчэнне ў наступным нумары

## Пазнаёмімся

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 18, кв. 18. Валя Садовіч, вучаніца 6 класа.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 9, к. 1, кв. 57. Аксана Мірановіч, вучаніца 3 класа.

* * *

БССР, 220036, г. Міснк-36, вул. Волаха, 9, к. 2, кв. 60. Люда Гарэльчык, вучаніца 3 класа.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск — 60, вул. Р. Люксембург, 195, кв. 10. Света Аляшкевіч, скончыла 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. Купрыянава, 9, кв. 16. Марына Паўлючэнкава, скончыла 3 клас.

* * *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. Ленина 13/15. Попова Лена.

* * *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты-14, ул. Первомайская, д. 26. Копыловой Кате. Дзяўчынка вучыцца ў трэцім класе.

* * *

СССР, 197348, г. Ленинград-348, ул. Аэродромная, 11, кв. 1. Иноходова Ольга. Дзяўчынцы 11 год.

* * *

СССР, 346407, Ростовская обл., г. Новочеркасск, ул. Желябова, 56. Яровой Юлии. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

* * *

СССР, 129929, г. Воркута, пос. Советский, ул. Стасовой, д. 14-37. Седуковой Юлии. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Волаха, 51 кв. 63. Наташа Пліско, вучаніца 3 класа.

* * *

БССР, 220036, г.Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 98, кв. 6. Наташа Дварэцкая, вучаніца 4 класа.

* * *

БССР, 220036, г.Мінск-36, вул. Волаха, 23, кв. 3. Света Шырачэнка, вучаніца 3 класа.

* * *

БССР, 220036, г.Мінск-36, вул. Волаха, 23, кв. 14. Наташа Рыжык, вучнаіца 4 класа.

* * *

СССР, 344065, г. Ростов-на-Дону, ул. Киргизская, 3, кв. 131. Бородавко Сергею. Хлопчык вучыцца ў пятым класе.

* * *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. М. Горького, 39, кв. 12 Торской Ане. 13 год.

## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

*Мы, вучні сёмага класа „Б" з Орлі, хочам падзяліцца з Табою ўражаннямі аб праведзеным уроку беларускай мовы на тэму „Чароўны шлях паэзіі Віктара Шведа".*

*На гэтым уроку ў нас было вельмі многа гасцей. Мы чыталі, дэкламавалі і абмяркоўвалі творы нашага земляка Віктара Шведа. На гэты ўрок кожны з нас падрыхтаваў альбом пад загалоўкам „60-годдзе Віктара Шведа".*

*Урок усім вельмі спадабаўся і таму мы былі задаволены і моцна радаваліся.*

*Дарагая „Зорка", далучаемся да пажаданняў усяго добрага слаўнаму юбіляру, сардэчна яго віншуем.*

**7„Б" КЛАС, ОРЛЯ.**

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



Размалюй карцінку каляровымі алоўкамі.

(Працяг са стар. 9)

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

А ліса прыйшла дый давай стукаць хвастом. Стукае па дрэве і гаворыць:

— Злазь, буду дуб сячы.

А дрозд ёй кажа:

— Хоць у дуб галавой!

Пабегала вакол дрэва ліса, а тады пытае:

— Хто цябе навучыў?

Дрозд адказвае:

— Кума навучыла.

А ліса пытае:

— Якая ў цябе кума?

— Варона.

А ліса ўзлавалася і кажа:

— Пачакай жа, я ёй не дарую.

Выбегла на поле, легла, быццам мёртвая, хвост адкінула і ляжыць. А варона ўгледзела, што можна пажывіцца.

Падлядела да гэтай лісы і падумала: „Выдзеўбу вочы ёй". Падлядела толькі бліжэй, а ліса цап! — і трымае.

— Ці будзеш вучыць дразда?

Папалася кума ды пачала ў лісы прасіцца:

— Не муч мяне так, як маці мяне мучыла: возьме два рэшаты, зложыць адно да аднаго, усадзіць мяне ў сярэдзіну і з гары як пачне катаць дык ні костачкі, ні пярынкі — усё разляціцца.

Ліса дастала два рэшаты, усадзіла варону, узнесла на гару і качнула з воронай разам. Рэшаты разляцеліся, а варона паляцела.

Вось так варона абхітрыла хітрую лісу.



Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

## ХТО НЕ БАІЦЦА СВАЕ ЖОНКІ?

**(Афрыканская казка для дарослых)**

**Жыў сабе чалавек, які вельмі баяўся жонкі.**

**— Чаму ты так баішся мамы? — здзівіўся яго сын.**

**Бацька задумаўся, а пасля сказаў яму так:**

**— Сынок, вазьмі з сабою чараду буйваліц і табун коней і адпраўся з імі па вёсках. Кожны раз, калі ты сустрэнеш мужчыну, які баіцца свае жонкі, аддай яму буйваліцу. А калі на сваёй дарозе спаткаеш такога, які жонкі не баіцца — кабылу.**

**Адправіўся хлопец у дарогу. У кожнай хаце, куды заходзіў, аказвалася, што муж жонкі баіцца. Неўзабаве ў чарадзе не асталося ні адной буйваліцы. Нарэшце наведаў ён апошнюю хату на ўскраіне сяла.**

**— Жонка, падай госцю бэтэль, — загадаў гаспадар.**

**„Урэшце, — падумаў хлопец, — сустрэў я сапраўднага мужчыну, які можа справіцца са сваёю бабаю!“ І запрапанаваў гаспадару выбраць са свайго табуна любога каня. Мужчына ўзяў найпрыгажэйшага гнядога коніка, а хлопец павярнуў у сваю вёску. Не паспеў яшчэ выехаць з гэтага сяла, як яго дагнаў задыханы „праўдзівы мужчына“:**

**— Маёй жонцы не падабаецца гэты конь, — крыкнуў ён. — Яна загадала памяняць яго на белую кабылу!**

**(апр. Вера Мяцёлка)**



# НІЎКА



### НА ЎСЯЛЯКІ ВЫПАДАК

Маці збіраецца на шумнае вяселле і складае ўсё, што лічыць неабходным для такой справы. За гэтай падрыхтоўкай сочаць маленькія Міколка і Волечка.

— Волечка, Міколка, — звяртаецца яна да дзяцей. — Ану, давайце разам праверым, ці не забылі чаго...

— Забылі!

— Забылі!

Волечка кінулася да насценнай аптэчкі і дастала адтуль маленькі флакончык з „зялёнкаю“, а Міколка спіскаў у рулю стэрыльны бінт.

— Гэта, мама, як будуць нашага бацьку зноў біць на вяселлі...

### НУ І НУ!

— Мяне, зразумела, гэта не датычыць, але колькі год тваёй жонцы?

— Яна набліжаецца да трыццаці...

— З якога боку?

### ПРАКАЦІЎ

— Каханая, хочаш, я пракачу цябе на вялізнай машыне з магутным рухавіком?

— Вядома, мілы.

— Тады пайшлі на прыпынак аўтобуса.

### ЗАДЗІРА

— Як ты можаш біцца, калі носіш акуляры?

— А перад тым, як біцца, я ўважліва гляджу на праціўніка, а потым б'юся па памяці!



**Лёгкі на пад'ём... па службовай лесвіцы.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Арне пытае ў прадаўшчыка авіяспартыўных тавараў:

— А што, калі гэты парашут не расчыніцца?

— Мы вам яго потым заменім адпаведна гарантыям.

*

Суддзя строга паглядзеў на бландзінку, якая давала паказанні па справе аб банкруцтве фірмы, дзе яна служыла сакратаркай, і спытаў:

— Вы ведаеце, што атрымаеце за дачу фальшывых паказанняў?

— Так. Шэф нешта гаварыў аб дзвюх тысячах крон і норкавым футры.

*

— Пачым вашы куры? — спытала маладка ў бабулі.

— Па сем чырвонцаў.

— Дарагавата...

— Хе, дарагавата! Калі б яны, — азірнулася, — на птушкаферме абскубаныя бегалі, а то яшчэ колькі марокі з імі!..

### КУРЫЦА-ТРЭНЕР

У школе на Рачную вуліцу
Прызначылі Рудую Курыцу,
Каб качанят зімой вучыць,
Як летам рэчку пераплыць.
Прыйшла вясна. І згінуў лёд.
Рудая качак у паход
К рацэ кіруе. Ды бяда:
Наперадзе бурліць вада!
Крык узняла:
„Вы куд-куды?!
У рэчцы поўна вунь вады!..“

**Пятро Перац**

З „Весніка Задрыпоніі“

### ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

...узяўшы звычайны алфавіт і размясціўшы літары акрэсленым чынам, можна атрымаць доктарскую дысертацыю.

### АБВЕСТКА

Мяняю развітое пачуццё гумару на высокае пачуццё адказнасці за лёс той установы, якую мне па гэтай абвестцы давераць.





**— Забаўна! Мы з табою жанатыя дваццаць пяць гадоў, і да гэтуль я ніколі не прыкмячаў, што ты ляўша, дарагая!**



**— Во-о-ось такая мышка!**

# Курёзы

### ГОНАР І ПЛЕЧЫ

У Англіі, дзе любяць з гонарам пагаварыць накont традыцыйнай павагі да маці, сястры, дачкі, да прыгожай палавіны чалавецтва наогул, прэса падняла на ўзровень амаль дзяржаўных праблему „мышачнага перанапружання“ плячэй афіцыянткі, якая разносіць піва ў цяжкіх куфлях. Як сцвярджаюць брыстольскія мясцовыя газеты, гэта, па аўтарытэтнаму меркаванню медыцынскіх спецыялістаў, можа прывесці да сур'ёзнага захворвання.

### КАХАННЕ ПРАЗ СЛЁЗЫ

Даволі кур'ёзны клопат праяўлены аб гонары жанчын-ваеннаслужачых ізраільскай арміі. Згодна з паведамленнем агенцтва „Асашыэйтэд прэс“, тут, каб салдаты-мужчыны не прыставалі да салдат-жанчын, іх узброілі дадаткова кішэннымі пульверызатарамі з газам, які выклікае слёзы. Вось так: лезеш з каханнем, дык спярша паплач. Ці ж гэта не велікадушна з боку мудрага камандавання?

# Смех з намі

Пакуль сябе не пахваліш, ніхто і не даведаецца пра тваю дурасць.